Кошт паштовай перасылкі аплачаны агулам.

Цана асобнага нумару 250.000 м.

# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 14. Вільня, Нядзеля, 30-га сакавіка 1924 г. Год I.

**У гэтым нумары 6 страніц.**

## Незалежнасьць і залежнасьць.

Сьвяткаваньне беларускім грамадзянствам сьвята абвешчаньня незалежнасьці Беларусі актам 25 сакавіка 1918 году можа шмат у каго выклікаць горкія думкі аб нашай сучаснасьці і вострай супярэчнасьці, як з найвышэйшым ідэалам беларускага народу—ідэалам поўнае дзяржаўнае незалежнасьці. *Абсалютна незалежнае Беларускае дзяржавы няма*! Але тая залежнасьць, у якой знаходзіцца цяпер розныя часьціны нашае Бацькаўшчыны, не аднолькавая, бо-ж і наагул залежнасьць аднаго народу ад другога, аднае дзяржавы ад другое бывае розная.

Мы ведаем аб форме *рабснае залежнасьці* зваяваных народаў ад народаў-пераможцаў. У такой залежнасьці — да Вялікае Расейскае Рэвалюцыі — жылі ўсе паняволеныя народы Расеі; у такой залежнасьці знаходзіцца сяньня Заходняя Беларусь у Польскай дзяржаве.

Ведаем таксама аб *культурнай* залежнасьці, у якой знаходзіцца аўтаномны ірляндзкі народ у Англіі, ужываючы мовы англічан; ведаем аб залежнасьці *палітычнай* і *мілітарнай*—у такой залежнасьці ад Францыі знаходзіцца Польшча, хоць фармальна лічыцца незалежнай дзяржавай. І дорага-ж абходзіцца польскаму народу яго дзяржаўнае існаваньне: за гэта ён прымушаны дзяржаць напагатові вялікую армію, чакаючы першага сыгналу Францыі, каб кінуцца ў бой, і—дзеля утрыманьня гэтае арміі—руйнуе сваё фінансы, свой скарб. *Эканамічная* залежнасьць існуе паміж новаутворанымі балтыцкімі дзяржавамі і СССР: уваходзячы сотні гадоў у склад агульнарасейскага гаспадарчага арганізму, яны выпаўнялі функцыі спэцыяльна *партовыя*, жывучы з транзіту тавараў з найдалейшых краін вялізарнае дзяржавы да марскіх портаў,—і цяпер, каб жыць далей гэнай сваей як-бы „спэцыяльнасьцяй“, павінны вельмі аглядацца на СССР, хаця *фармальна* ні ад каго не залежаць.

Эканамічная залежнасьць паміж паасобнымі народамі і паміж зусім незалежнымі з фармальнага боку дзяржавамі пры сучаснай сусьветнай гаспадарцы—*нямінуча*. На грунце гэтае залежнасьці і узьнімаюцца крывавыя войны, ці творацца саюзы, дагаворы. І можна сьмела сказаць, што далёка ня кожын народ, маючы сваю фармальна незалежную дзяржаву, добра на гэтым выходзіць: часта захаваньне аднае толькі відзімай незалежнасьці вымагае ад яго шмат вялікшых ахвяр, чым вымагала-бы прыналежнасьць да другое дзяржавы. Але незалежнасьць заўсёды і ўсюды зьяўляецца тым *неабходным варункам*, які адзін толькі можа забясьпечываць народам магчымасьць завязаньня з другімі народамі карысных і патрэбных „залежных“ адносінаў.

Бязспрэчна, што сучасная Эўропа йдзе да аформленьня гэткіх „залежнасьцяў“ між дзяржавамі дарогай *сыстэмы саюзаў*. Але тут мы бачым дзьве канкуруючыя між сабой сыстэмы: францускую і англійскую, дый пры існаваньні капіталістычнага ладу ня можа быць гутаркі аб прымірэньні непрымірымых супярэчнасьцяў на грунце эканамічнае канкурэнцыі паміж Францыяй і Англіяй. Прымірэньне маглі-бы зьдзейсьніць толькі работніцкія масы гэтых дзяржаваў, калі-б здалелі зламаць у сябе капіталістычны лад,— інакш кажучы, дарогай *сацыяльнае рэвалюцыі*.

Што гэта іменна так, паказвае прыклад СССР. Тут, дзякуючы *дыктатуры працоўных масаў*, у поўнай меры праведзена *каапэрацыя, супрацоўніцтва народаў* у пастаці дзяржаўнага саюзу, 'у які ўваходзіць і Беларусь. Бязспрэчна, Беларусь увайшла ў склад гэтага саюзу, якраз дзякуючы таму, што абвесьціла сябе незалежнай дзяржавай. Але варункі жыцьця незалежнае Беларусі злажыліся так, што, каб збудаваць сваю дзяржаўнасьць, яна была *прымушана* сваю незалежнасьць замяніць на залежнасьць—на падставе саюзнае ўмовы, ў першы чарод—з Расейскай і Украінскай Радавымі Рэспублікамі. Праз гэту залежнасьць *будуецца* Беларуская Сацыялістычная Радавая Рэспубліка, абмежаваная агульна-саюзным палітычным і эканамічным кірункам; праз гэту залежнасьць адбываецца *зьбіраньне* парэзаных на кускі беларускіх зямель; гэта залежнасьць, урэшце, дасьць Беларусі магутнае падтрыманьне СССР і ў яе імкненьні да вольнага выхаду ў мора. І мы з поўным пераканаьнем можам сказаць, што Беларусь, уваходзячы ў склад СССР, прымушаная да гэтага акалічнасьцямі, толькі *папярэдзіла* другія суседнія незалежныя дзяржавы, якія раней ці пазьней будуць так сама прымушаны прыступіць да каапэрацыі Радавых Рэспублік.

Прыймаючы ўсё гэта пад увагу, мы павінны пацешыць нашых пэсымістаў, якія, гледзячы на няволю беларускага народу ў Польскай дзяржаве і чуючы аб залежнасьці Усходняе Беларусі ад СССР, гатовы зрабіць вывад аб нярэальнасьці ідэі незалежнасьці Беларусі наагул. Няхай-жа пацешацца: акт 25 сакавіка 1918 году ўжо *выпаўніў сваю гістарычную ролю*. Выпаўніў, бо тое, што робіцца на Усходзе, ёсьць іменна *дзяржаўная творчасьць* беларускага народу, які да таго-ж імкнецца праз СССР *сабраць у адно ўсю сваю Бацькаўшчыну*.

Трэба толькі ў гатовую ўжо дзяржаўную форму ўдыхнуць беларускі нацыянальны зьмест, трэба ўзмацаваць і разьвіць усе творчыя сілы беларускага народу, і мы, хоць і зукоснай дарогай, мо' хутчэй, падойдзем да магчыма поўнага зьдзейсьненьня нашае незалежніцкае ідэі, чым падыйшлі-бы простай дарогай.

А патрэба *каапэрацыі народаў* перш за ўсё на *эканамічна-гаспадарчым грунце* раней ці пазьней павялічыць лічбу сябраў СССР, што йшчэ больш пашырыць межы самастойнасьці кожнае спаміж радавых рэспублік, якія ўваходзяць у гэты саюз. І мо' іменна СССР суджана стацца тым асяродкам, каля якога пачнецца крысталізацыя *агульна-эўрапэйскіх злучаных штатаў*?...

**Грамадзян падпішчыкау газэты „Голас Беларуса“, якія яшчэ не надаслалі падпіскі на красавік месяц, просімо пасьпяшыцца, каб ня было перарыву у атрымліваньні газэты.**

**Адміністрацыя.**

## Беларусь і Літва.

Мы атрымалі дужа цікавыя выразкі з ковенскіх літоўскіх газэт у справе ўзаемных беларуска-літоўскіх адносінаў.

Як вядома, цяпер улада ў Літве знаходзіцца ў руках таксваных „хрысьціяных дэмакратаў“ („Хрысьціянская дэмакратыя“—польскія „хадэкі“). Пануючая партыя, ламаючы старыя добрыя адносіны паміж беларускім і літоўскім народамі, зьліквідавала існаваўшае ад пачатку дзяржаўнага існаваньня Літвы міністэрства беларускіх спраў і іншыя установы. Гэта выклікала абурэньне як крайніх правых, так і крайніх левых літоўскіх партыяў. Толькі матывы абурэньня, правых і левых палітыкаў—зусім розныя.

Выступленьне б. прэзыдэнта Літвы А. Сматоны ў № 6 газэты „Vairas“ (7 лютага 1924 г.) ў стацьці „Бяз будучыны“ апіраецца на тым паглядзе, што Заходняя Беларусь (тачней: Віленшчына і Горадзеншчына) ёсьць як быццам „уласнасьць“ Літвы. Аўтар і называе гэту частку нашае Бацькаўшчыны „Літвой“, толькі заселенай беларусамі. І з гэтага пункту гледжаньня п. Смэтона востра нападае на цяперашні літоўскі ўрад за перамену курсу ў адносінах да беларусаў —„грамадзян Літвы“.

„У працягу апошніх гадоў наш урад спадзяваўся праз год-другі быць у Вільні, і затым ня варта было ліквідаваць беларускага міністэрства, якому ў недалёкай будучыні мо' трэба было-б на месцы бараніць інтарэсы вялікае лічбы беларусаў. І тут трэба было вясьці сябе больш асьцярожна. Ня толькі ворагі Літвы, але і віленскія беларусы могуць падумаць, што Літва імі ня цікавіцца. Ці карысна для літоўскае палітыкі такое пэсымістычнае настраеньне беларусаў? Ведама, што не. Яшчэ больш нашкодзіла заява п. Гальваноўскаса (літоўскага прэм'ера. — *Рэд.*) супрацоўніку „Эха“, што „беларуская палітыка цяпер аказалася абстрактнай і бясплоднай“. Праўда, гэтае выражэньне можна разумець двояка: беларусы вядуць абстрактную і бясплодную палітыку, ці палітыка літоўскага ўраду ў беларускім пытаньні павісла ў паветры і не дала віякіх пладоў.

П. Смэтона думае, што вінаваты тут зусім не беларусы, а іменна сам літоўскі ўрад. Ліквідацыя беларускага міністэрства зьяўляецца фальшывым крокам: цяпер зусім нельга зразумець, па якой дарозе наагул маніцца йсьці літоўскі ўрад у адносінах да беларусаў.

Як наш урад, прыйшоўшы ў Вільню, разьвязаў-бы канкрэтна беларускае пытаньне, як не думае выпаўніць там свае абавязкі,—мы ня ведаем.

Далей б. прэзыдэнт паказвае Літве на прыклад Чэхаў, якія аказваюць вялікую культурную дапамогу беларускай моладзі:

У Празе адных студэнтаў беларусаў ёсьць чуць не 150 душ, і хто скажа, што беларусы, з якімі мы мелі гэтак многа супольнага ў мінуўшчыне дый так многа маем цяпер, ня бліжэй літвіном, чымся чэхаславакам? Беларусы ня толькі нашы блізкія суседзі, але і прадстаўляюць большасьць насяленьня ў акупованай Літве, ад якога мы ніколі не адрачэмся,—беларусы і нашы грамадзяне. Хоць-бы некалькі стыпэндыяў вызначыў наш урад беларусам студэнтам у Ковенскім унівэрсытэце! Але і гэтым пытаньне ня было-бы йшчэ вычарпана: гэта толькі прыклад, раўнуючы нашу палітыку з палітыкай Чэхаславакіі. Для беларусаў мы павінны мець поўную культурную і палітычную праграму, — трэба мець больш ведамасьцяў, як жывуць беларусы ў акупованай Літве, і ўсьцяж ім паказываць не на славах, а на жывым дзеле, што мы ня думаем адрачыся ні ад Вільні, ні ад Горадні.

## Весткі з вёскі.

**Вёска Талькоўшчына,** Шудлкоўскай гміны.

У нашай вёсцы здарыўся гэткі выпадак. Купцы закупілі ў урадовым лесе шмат яловых калодак і пачалі вазіць іх да вузкачыгункі. Нашыя сяляне з ахвотаю паехалі туды на заробкі. Ведама, кожнаму трэба грошы на соль, на газу, а тут і падатак штомесяца трэба плаціць новы. Падлясьнічы Шыдлоўскі пазаздросьціў мізэрнаму заробку сялян. Загадаў памагатыру запрагаць каня і ехаць у лес. Сам таксама пашоў туды. У лесе падлясьнічы змушаў першых спаткаўшыхся сялян класьці на яго вазы дзерава. Усе слухалі, бо як-жа пана ня слухаць, а то ён і ў лес ня пусьціць. Аднак сустрэўся з нашай вёскі чалавек, у жылах каторага плыла яшчэ вольная крывіцкая кроў. На загад Шыдлоўскага класьць на ягоны воз калодкі Лісоўскі Алесь, (так звалі селяніна) спакойна адказаў: „калі-б пан падлясьнічы мяне папрасіў, то памог-бы, а як загадываеш, дык не памагу“. Павярнуў каня і хацеў аб‘ехаць заступіўшага яму дарогу падлясьнічага, але той гукнуў гаёвых і яны, падскочыўшы, па загаду Шыдлоўскага перарэзалі гужы непакорнаму мужыку. Сам падлясьнічы прыставіў карабін да грудзёў Лісоўскага і, пачырванеўшы ад злосьці, здушаным голасам зароў: „Калі ня пойдзеш класьць калодкі на мой воз, дык забью, як сабаку“. На крык зьбегліся сяляне і абаранілі ад раз‘юшанага пана свайго суседа.

Нядаўна быў суд. За Алесем Лісоўскім сьвядчыла целая вёска, паказала на судзе ўсю праўду, аднак sędzia pokoju прызнаў падлясьнічага ня вінаватым. Як відаць, панская крыўда ў нас перашагае мужыцкую праўду.

**Алес Гренчык.**

# УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## Голас сялянства.

### Мазыршчына.

(*В. Міхедавічы* 11, *Грабаўскай вол.*).

Пра пашырэньне тэрыторыі Беларусі наша сялянства мала знае. Але пра гэтае пашырэньне сяляне даведаліся праз газэты і былі вельмі задаволены, ведаючы, якую карысьць прынясло пашырэньне з эканамічнага боку. Часта прыходзілася чуць раней ад сялян: „як так можа быць, каб абшары з аднолькавай насельнасьцю маглі быць разлучаны“.

Рэчыцкі павет, частка якога далучаецца да Б.С.С.Р., знаходзіцца ад нас за 50 вёрстаў, так што сялянства наша знаецца з сялянамі Рэчыцкага павету.

„Жывуць гэтак, як і мы, гавораць аднэй з намі мовай, значыць павінны і будаваць новае жыцьцё разам з намі“,—так кажуць сяляне пра ўсходніх братоў.

**Тутэйшы.**

### Меншчына.

**Сялянская канфэрэнцыя Беларуцкай воласьці.**

24-га гэтага лютага ў памешканьні Народнага Дому м. Беларуч была назначана беспарт. канфэрэнцыя сялян Беларуцкай воласьці.

На канфэрэнцыю ад кожнага вясковага савету выбіраліся прадстаўнікі па некалькі чалавек.

Сабраліся а 3 гадзіне ўдзень. Прыехалі і прадстаўнікі цэнтру і інш. Шмат прысутнічала і мясцовых сялян і сялянак, апроч дэлегатаў.

На павестцы дня стаялі вось якія пытаньні: 1) Ітогі зьездаў Усебеларускага і Усесаюзнага, 2) Пашырэньне Беларусі і 3) Бягучыя справы.

Па пытаньню аб пашырэньні Беларусі вынесена вось якая рэзалюцыя: „Беспартыйная канфэрэнцыя Беларуцкай воласьці вітае аб‘яднаньне Савецкай Беларусі і падкрэсьлівае, што гэта дае магчымасьць не сароміцца сваёй роднай мовы і культуры, і мы поўны надзеі, што гэтае аб‘яднаньне палепшыць нашае жыцьцё эканамічна. Пасылаем шчырую падзяку ініцыятарам аб‘яднаньня і будзем чакаць, што ў скорым часе з намі аб‘яднаюцца і закардонныя браты.

У бягучых справах старшыня Валвыканкому даў малюнак аб прадстаячай працы ў воласьці, аб рамонце школ, выканкому, мастоў і г. д. Канфэрэнцыя пажадала ўсё гэта як найхутчэй правясьці ў жыцьцё.

Канфэрэнцыя зачынілася а 10 гадзіне са сьпевам „Ад веку мы спалі“. **К.**

# Хроніка беларускае культуры.

**Беларускі сэктар паэтаў.**

Прадстаўнікі Усерасейскага Саюзу паэтаў-Рурык Івнеў і Ройзманаў нядаўна былі ў Менску. Яны прыехалі ў Радавую Беларусь з Масквы са спэцыяльнаю мэтаю: завязаць культурную сувязь з беларускім Парнасам.

Між іншым, яны лічылі патрэбным арганізаваць беларускі сэктар паэтаў, які ўвайшоў-бы ў склад Усерасейскага саюзу паэтаў. З гэтае прычыны была склікана канфэрэнцыя беларускіх паэтаў у Менску, дзе пытаньне культурнай сувязі з расейцамі было абгаворана з усіх бакоў. У рэзалюцыі, за якую галасавала большасьць канфэрэнцыі адзначаецца патрэбнасьць сувязі і прапануецца праўленьню Усерасейскага саюзу паэтаў узяць на сябе ініцыятыву склікаць зьезд паэтаў усіх нацыянальнасьцяў СССР, каб заснаваць міжнародны саюз паэтаў, у які беларускія паэты ўвойдуць, як самастойная сэкцыя.

**Пераклады з беларускае мовы.**

Пытаньне з перакладамі беларускае паэзіі на расейскую мову пастаўлена на пэўны грунт.

Наладжана сувязь менскіх паэтаў з петраградскімі. Яшчэ ў 1923 годзе паэтэсы М. Шкайская, Паўловіч і малады здольны паэта Ціханаў зацікавіліся нацыянальнаю беларускаю літэратураю і прасілі прыслаць ім зборнікі вершаў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Чарота для перакладаў.

Маскоўскі парнас зацікавіўся адраджэньнем беларускае паэзіі трошкі пазьней. Група імажыністаў прапануець беларускім паэтам культурнае супрацоўніцтва з прычыны таго, што беларуская паэзія вельмі багата абразамі і, такім чынам, родная імажынізму. Супрацоўніцтва павінна пачацца перакладамі на беларускую мову найлепшых твораў расейскіх паэтаў і наадварот.

**Беларуская група паэтаў „Маладняк“**

У Менску арганізавалася група беларускіх паэтаў з рэвалюцыйным напрамкам пад назвай „Маладняк“. У гэтую групу ўваходзяць М. Чарот, Александровіч, А. Вольны Дудар, Бабарэка, Дземідовіч, Чарнушэвіч і інш. Усяго ў групе налічваецца да 15 паэтаў. З старых песьняроў у групу „Маладняк“ увайшоў З. Бядуля.

Група ладзіць літэратурныя вечары і дыспуты ў педтэхнікуме, унівэрсытэце, выяжджае на паветы і нават на вёску, дзе выступае са сваімі творамі перад беларускаю моладзьдзю. Усюды „Маладняк“ мае вялікі пасьпех.

**Новы беларускі паэта Анатолій Вольны.**

Многія беларускія паэты, дзякуючы таму, што прайшлі толькі расейскую школу, пачыналі пісаць па-расейску і потым пераходзілі на беларускую мову.

Тое самае мы бачым і цяпер. У групу „Маладняк“ увайшоў нядаўна малады, гарачы, з імажыністскаю афарбоўкаю паэта Анатолі Вольны, які да 1924 году пісаў толькі парасейску. Цяпер А. Вольны вельмі ўдачна пачаў пісаць пабеларуску. Сам ён беларус, родам з Ігуменшчыны. Першыя творы яго пабеларуску надрукованы ў №№ 1, 2 і 3 часопісі „Маладняк“.

**Беларусы і Украінцы.**

У Харкаве істнуе вельмі моцная Украінская група паэтаў і пісьменьнікаў пад назвай „Плуг“.

Паміж „Плугом“ і беларускімі паэтамі наладзілася сувязь. У Харкаве, з прычыны гэтага, былі дзьве літэратурныя вечарыны, ахвяраваныя новай беларускай паэзіі і літэратуры. На апошняй літэратурнай вечарыне, якая адбылася ў лютым г. г., з вялікім дакладам аб адраджэньні беларускае літэратуры выступіў Дыла. Потым былі зачытаны вершы Чарота, Цішкі Гартнага і іншых, а ўкраінскія паэты чыталі пераклады з беларускага на ўкраінскі.

# Д О П І С Ы.

## Беларусы у Латвіі.

**Беларуская экскурсія ў Рыгу.**

Рыга. 10. III. 24. Учора прыехала ў Рыгу экскурсія беларускіх вучняў і вучыцялёў Дзьвінскай Урадовай Гімназіі і пачатковых школаў, у ліку 110 чалавек.

Экскурсія аглядае музэі і сёньня ўвечары робіць вечарыну—Канцэрт у Нацыянальнай Латыскай Драме.

**Беларуская вечарына ў Рызе.**

Рыга 11. III 24. Для беларускае экскурсіі з Дзьвінску Рыжская беларуская пачатковая школа і Рыжскія Беларускія вучыцельскія курсы прыурочылі дзень свайго афіцыяльнага адчыненьня і зрабілі вечарыну-спэктакль.

Пачатковая школа ставіла „Снатворны Мак“, а вучыцельскія Курсы „У каваловай хаце“.

Перад спэктаклям адбыўся ўрачысты акт адчыненьня курсаў.

З прамовамі на акце выступалі:

Кіраўнік Рыжскай пачатковай беларускай школы М. Дзямідаў,

Кіраўнік Беларускага Аддзелу С.П. Сахараў,

Дырэктар Дзьвінскай Беларускай Урадовай Гімназіі Я. Краскоўскі, і дырэктар Люцынскае Беларускае Урадовае Гімназіі К. Б. Езавітаў.

**Беларускі Канцэрт у Рызе.**

У панядзелак, 10 сакавіка адбыўся беларускі спэктакль і канцэрт у Рызе, у памешканьні Латыскага Нацыянальна-Драматычнага Тэатру.

Ставілася пьеса Янкі Купалы „Паўлінка“ і канцэрт беларускіх сьпеваў.

Рабілі пастаноўку вучні Дзьвінскае Беларускае Ўрадовае Гімназіі пад кіраўніцтвам і рэжысэрствам вучыцелькі гімназіі гр. Паўліны Мядзёлка-Грыб, якая кіравала таксама і хорам.

Пьеса згуляна была добра. Чулася ў вучняў ужо значная пэўнасьць у правядзеньні роляў і навык да сцэны.

Можна лічыць, што зусім справіліся са сваімі ролямі: Паўлінка (вуч. I кл. Мікалаева), *у якой ня толькі здольнасьць да гульні, але таксама і да сьпеву,* і Сьцяпан Крыніцкі (вуч. IV клясы Карнавукі), спакойна правеўшы сваю ролю.

Ня мог—належна справіцца са сваёй бутэлькай гарэлкі Пустарэвіч (вуч. II кл. Юркевіч), якога дужа псаваў яго няўдалы кажух, з аблезлым каўняром і кароткімі рукавамі. Гэткі кажух, з чужога пляча, *можна* спаткаць у беларуса, *але ня ў сьвята,* ды й не ў такога даволі заможнага гаспадара, як Пустарэвіч.

Зусім на мейсцы быў Адольф Быкоўскі (вуч. I кл. Мядзёлка)

Якіму Сароцы трэба-б было быць больш шчырым, чулым і пэўным. Дзіўна было бачыць, што ён (вуч. IV кл. Гусарэвіч) часам спадаў з настраю.

Альжбета (вуч. II кл. Яхімовіч) і Агата (вуч. II клясы Мадзалеўская) згулялі свае ролі добра.

Дужа добра прайшлі сьпевы і скокі, якія вельмі падабаліся й латыскай публіцы.

Трэба тутака зазначыць, што латыская рыжская публіка беларускае мовы *не разумее,* а таму рэагуе толькі на музыкальныя і балетныя часткі пьесы.

Дзякуючы гэтаму, ўсе найбольш яркія, а часам і дужа сьмешныя мейсцы пьесы,— *асталіся зусім незаўважанымі.* Гэтае здарэньне ў I акце дужа хвалявала маладых артыстаў, бо яны не адразу сабе ўцямілі, чаго гэта заля *„маўчыць“,* калі ў Дзьвінску ў гэты момант стаіць рогат.

Найбольш хвалявала гэта Паўлінку, якая разоў са тры крыху нават прапушчала фразы.

З досьледу гэтае пастаноўкі трэба зрабіць вывад, што ў Рызе ды і наагул *„для чужых“,* — *мы можам ставіць толькі тое, што пабудована на сьпевах і балету.*

Падцьвярджае гэты вывад і тая захопленая цікавасьць, з якой заля слухала канцэрт хору гімназіі.

Латышы самі добра сьпяваюць і дужа любяць сьпевы.

Хор спатканы быў доўгімі і дружнымі воклескамі. Абодва канцэртныя аддзелы прайшлі пры вялікім зацікаўленьні і задаваленьні. Асабліва ўсьпех выпаў на долю салісткі, вучаніцы I клясы Бударавай, у якой выразна выяўляецца запраўдны талент да народнага сьпеву і асабліва сьпеву гумарыстычнага („Мой міленькі захварэў“..., „Ці ня дудка мая“...).

Пасьля канцэрту хор і вучні былі сфатаграфаваны на сцэне, разам з гр. Я. Райнісам, вядомым латыскім паэтам і драматургам, шмат зрабіўшым для абароны беларускае нацыянальнае меншасьці ў Латвіі.

Спроба беларускага спэктаклю ў Рызе на вялікай тэатральнай сцэне была зроблена першы раз.

Тыя спробы беларускіх вечарынаў, якія рабіліся Т-вам „Бацькаўшчына“ ў Рызе йшчэ ў 1919 і 1920 годзе, хоць і давалі значную матар‘яльную карысьць, але не давалі гэткага багатага нацыянальна-этнаграфічнага матар‘ялу.

І таму з вялікай падзякай павінны мы прывітаць гэту адважную спробу і аддаць належнае таму, хто многа і ўпарта працаваў над узгадаваньнем маладых артыстаў і хору.

Гонар гэтае працы цалком належыць П. В. Мядзёлка-Грыб, якая за час сваей працы ў Дзьвінскай Гімназіі здолела ўжо зрабіць каля 20 пастановак, паказала Дзьвінску і бліз яго ляжачым мясцовасьцям лепшыя беларускія п‘есы, прышчапіла тутака беларускую лявоніху, зрабіла добры хор, які мае ўжо салідны рэпэртуар, як харавы, гэтак і сольны.

Працай сваей прывязала яна да сябе лепшых вучняў гімназіі і шчырэйшых працаўнікоў з беларускага вучыцельства ў Латвіі. Сьледам за ёй ужо йдзе значная грамада моладзі, а ў гэтым — залог умацаваньня нашага нацыянальнага адраджэньня.

Удзячныя яе аднадумцы адзначылі дзень першага выступленьня яе гадунцаў у Рызе і паднясьлі ёй у часе канцэрту прыгожую кашолку белых жывых кветак.

Шчыра пажадаем ёй, як мага больш, кветак у жыцьці.

**Кастусёнак.**

Рыга
11/III. 1924 г.

Рэдактар-Выдавец М. Шыла.

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.